# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamlenni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, www.pahonia.org*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *VIESTKI, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 7 (569)**
**Ліпень 2013 г.**


*У нядзелю,* ***21 ліпеня 2013 году,*** *традыцыйным Маршам пачынаецца*

## Тыдзень Паняволеных Народаў,

*які быў зацьверджаны Кангрэсам Злучаных Штатаў Амэрыкі праз Грамадзкі закон 86-90 яшчэ ў 1959-м годзе, як выказ пратэсту народаў сьвету супраць камуністычнай і таталітарнай тыраніі ў сьвеце. У імпрэзах Тыдня і ў Маршы Паняволеных Народаў традыцыйна бярэ ўдзел беларуская грамада Нью-Ёрку і Амэрыкі.*

**9:00** – ***збор удзельнікаў Маршу*** *на Пятай авэню і 59-й вуліцы (ля фантану гатэля Пляза).*
**10:00** – ***імша за Паняволеныя Народы*** *ў Катэдры сьв. Патрыка на Пятай авэню і 50-й вуліцы.*
**11:00** – ***Марш Паняволеных Народаў*** *па Пятай авэню да 72-й вуліцы.*
**12:00** – ***афіцыйнае адкрыцьцё*** *Тыдня Паняволеных Народаў у Цэнтральным парку.*

Арганізаваны Камітэтам Паняволеных Народаў, які паўстаў у 1950-я гады, Тыдзень Паняволеных Народаў, часткаю якога ёсьць гэты Марш, быў масавай імпрэзай эміграцкіх арганізацыяў з краінаў, якія калісьці зьняволіў савецкі камунізм, у тым ліку Беларусі. Сёньня большасьць тых краінаў вызвалілася і здабыла свабоду.

Беларусь засталася паняволенай прамаскоўскім дыктатарскім рэжымам, там зьліквідаваная дэмакратыя, парушаюцца правы чалавека, зьнішчаецца нацыянальная культура. Таму беларуская грамада працягвае браць удзел у імпрэзах Тыдня Паняволеных Народаў, выказваючы свой пратэст супраць антынацыянальнай дыктатуры ў Беларусі..

## Купальле ў маляўнічым кутку штату Нью-Ёрк



Сёлетняе Купальле ў Ўард-Паўнд-Рыдж каля мястэчка Катона, штат Нью-Ёрк, сабрала рэкордную колькасьць удзельнікаў за апошнія 10 гадоў правядзеньня гэтага традыцыйнага беларускага сьвята, больш за семдзесят чалавек. Прайшло яно ў цудоўнай маляўнічай мясьціне, дзякуючы нястомным шматгадовым арганізатарам гэтай імпрэзы Лене і Пятру Рыжым.

Перад пачаткам сьвята ўдзельнікі падрыхтавалі пляцоўку у файнай мясьціне лесу ў заказьніку Ўард-Паўнд-Рыдж, дзе знаходзяцца вадасховішчы, што даюць ваду гораду Нью-Ёрку. Людзі нанесьлі дроваў, падрыхтавалі кола і вось, якія сымбалізуюць дрэва жыцьця, наплялі купальскіх вянкоў.

Затым, калі надыйшло сутоньне, усе ў нацыянальных строях выйшлі на паляну. Былі абраныя грамадой Князь-Купаліш і дзяўчына Купалінка, Арцём і Сьвятлана. Яны затым падыйшлі да складзенага ва-

***Заканчэньне на бачыне 3***

# Чэрвеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”



Здымак В. Зайкі

Чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” прайшоў 8-га чэрвеня. На ім ў другі раз была зробленая спроба правесьці справаздачы і выбары. Напачатку сходу старшыня Згуртаваньня “Пагоня” Віталь Зайка пабедаваў, што другі раз не сабраўся кворум для правядзеньня выбараў кіраўніцтва арганізацыі. Было вырашана правесьці справаздачы, а для ажыцьцяўленьня кіраваньня арганізацыяй пакінуць яшчэ на год дзеючых старшыню і ўправу.

Сп. Зайка коратка распавёў пра бягучы момант у арганізацыі і затым зачытаў справаздачу старшыні, у якой узгадаў праведзеную за мінулы пэрыяд працу, палітычныя і культурніцкія імпрэзы. Прамоўца адзначыў, што за справаздачны пэрыяд да Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” далучыліся 72 чалавекі.

Дзеля таго, што скарбніца арганізацыі Валянціна Балашчэнка па стане здароўя і дзеля сямейных абставінаў ня можа далей выконваць скарбніцкая абавязкі, фінансавую справаздачу за яе зрабіў старшыня “Пагоні” В. Зайка. Ён прывёў лічбы прыбыткаў ($5600) і выдаткаў ($4929) за справаздачны пэрыяд, патлумачыў крыніцы прыбыткаў і мэты выдаткаў і адзначыў, што рэшта прыбытку за бягучы год склала 671 даляр. Такім чынам, разам з рэштаю ад мінулага пэрыяду ($3760) сума ў распараджэньні арганізацыі на дадзены момант складае 4431 даляр. Функцыі новага скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” пагадзіўся выконваць сябар управы Віктар Едзіновіч.

Затым перад прысутнымі з прэзэнтацыяй пра сучаснае беларускае грамадзтва ў сьвятле сацыялягічных апытаньняў выступіў сп. Юры Малахаў. Ён распавёў пра дзейнасьць Незалежнага Інстытуту Сацыяльна-Эканамічных і Палітычных Досьледаў, які зарэгістраваны ў Летуве, і пра кіраўніка Інстытуту прафэсара Алега Манаева. Сп. Ю. Малахаў адзначыў, што не заўсёды згодны з аналізамі дадзеных, якія падае Інстытут у сваіх бюлетэнях, але шмат якія дадзеныя і тэндэнцыі, што публікуюцца Інстытутам, выглядаюць досыць паважна.

Беларусь мае Індэкс свабоды каля 6,5-7 балаў па 7-бальнай скалі несвабоды Freedom House, для параўнаньня Ўкраіна мае 2,5-3 балы. Каля 43% беларусаў за тое, каб мінімальны ўзровень жыцьця забясьпечвала дзяржава. У Беларусі цяпер назіраюцца дзьве плыні грамадзкіх настрояў – падтрымка мадэрнізаванай савецкай мадэлі, якую ўвасабляе палітыка рэжыму Лукашэнкі, і мадэль нацыянальнай дзяржавы, якую ўвасабляе апазыцыя рэжыму. Беларускі аўтарытарызм мае спэцыфічныя рысы, як і беларускае грамадзтва ўвогуле. Грамадзтва падзеленае па эканамічных і палітычных поглядах, у ім незавершанае фармаваньне сацыяльнай ідэнтычнасьці, яно раздвоенае геапалітычна.

Сп. Малахаў прадэманстраваў праз праектар шэраг графікаў з дадзенымі сацыялягічных апытаньняў, што адлюстроўваюць вышэйпазначаныя зьявы, як напрыклад, графікі пра тэндэнцыі адказаў на пытаньні пра аб’яднаньне з Расеяй і пра ўваходжаньне ў Эўразьвяз. Прамоўца таксама прааналізаваў вынікі апытаньня адносна моваў, якімі карыстаецца насельніцтва Беларусі. Згодна зь ім назіраецца зьніжэньне карыстаньня беларускай мовай, а таксама трасянкай, але крыху падвысілася доля тых, што карыстаюцца і расейскай і беларускай мовамі.

Паказальным адносна настрояў у грамадзтве зьяўляецца таксама вынік апытаньня пра стаўленьне да апазыцыянэра Сяргея Каваленкі, што быў арыштаваны за вывешваньне нацыянальных сьцягоў. Большасьць ставіцца да яго абыякава, або лічыць “клёўнам”. Аднак каля 35% уважаюць, што ён пакутуе за свае перакананьні, а 5% лічаць яго нацыянальным героем.

Наагул, усё больш людзей выходзяць з-пад уплыву савецкіх часоў, захоўваецца дуалізм ў стаўленьні да Расеі й ЭЗ, калі адныя і тыя ж людзі то падтрымліваюць яднаньне з Расеяй, то ўваход у Эўразьвяз. З ростам зьнешняга доўгу Беларусі будзе, як бачылі ўжо ня раз, падвышацца актыўнасьць Расеі на беларускім эканамічным і палітычным полі. Беларуская незалежнасьць будзе як і раней працягваць балянсаваньне, стан грамадзтва таксама будзе застаецца нестабільным.

Прэзэнтацыя сп. Ю. Малахава была ўспрынятая прысутнымі зь цікавасьцю, прамоўца адказаў на пытаньні.

Затым у разьдзеле “Рознае” прагучэлі аб’явы і паведамленьні, у прыватнасьці пра маючае адбыцца 22-23 чэрвеня Купальле. Прысутныя таксама мелі нагоду пазнаёміцца з гасьцямі “Пагоні” і працягнуць знаёмства пры сьціплых пачастунках пасьля сканчэньня афіцыйнай часткі сходу.

**Віталь ЗАЙКА**

# Купальле ў Нью-Ёрку

***Заканчэньне з бачыны 1***

кол восі вогнішча, і Купалінка паходняй запаліла яго, пачынаючы сьвяткаваньне. Душа арганізацыі Купальляў сп-ня Валянціна Якімовіч, коратка распавяла пра сымбалізм і абраднасьць Купальля і завяла карагод са сьпевамі, так як некалі рабілі нашыя продкі. Удзельнікі вадзілі карагоды і падпявалі абрадным купальскім сьпевам. “Дрэва жыцьця”, лучнасьць зямнога і касьмічнага, з колам – жаночым пачаткам, у які ўпісаны крыж – мужчынскі пачатак, сымбалізуюць працяг жыцьця, якому і пакланяліся нашыя продкі.

Калі перагарэла, і павалілася вось – а, па традыцыі, у бок каго паваліцца вось, сёлета пабярэцца шлюбам – удзельнікі імпрэзы пачалі сьвяточныя гульні. З ахвотаю і захапленьнем гулялі ў “Цяцерку”, “Падушачку”, “Баяроў”. Падчас гульняў Купалінку скралі “нячысьцікі”, і Князь-Купаліш кінуўся з дружынаю шукаць яе. Сёлета пошукі Купалінкі зацягнуліся, бо замест таго, каб схаваць Купалінку ў лесе, “нячысьцік” зацягнуў яе ў аўта, і шукаць давялося даўжэй. Таксама ў гэты час згубіўся маленькі хлопчык Марцінка, які, аказалася, замарыўся і прылёг паспаць на лаве. У кожным разе арганізатарам давялося пахваляваца. Але неўзабаве ўсё наладзілася, усе знайшліся, і сьвяткаваньне працягвалася.

Удзельнікі пачалі парамі скакаць праз вогнішча. Сымбалізм скокаў праз вогнішча – у ачышчальнай сіле вагню і ў злучаючай сіле хатнага котлішча.

Затым моладзь пайшла, па традыцыі, шукаць папараць-кветку. Згодна з вераваньнямі продкаў, той што знойдзе папараць-кветку стане шчасьцлівым і зможа разумець мову дрэваў, зьвяроў і птушак. Лес у гэты час ўяўляў сабою цудоўную карціну – вялічэзны месяц над вершалінамі дрэваў, ані ветрыку, сьветла, чуваць сьпевы, праз дрэвы зіхцяць вуглі вогнішча.

Удзельнікі сьвяткаваньня селі вакол вогнішча, пачалі сьпяваць песьні. Асаблівым талентам выдзяляліся Алена Рыжая, Валя Якімовіч і Юрась Міхед, а таксама ўкраінец Андрый. Разам з Валяй ён выканаў песьню “Ой, сівы конь бяжыць” – кожны сьпяваў на сваёй мове, але выкананьне толькі выйграла. Затым госьці маглі пакаштаваць знакамітага крупніку – цудоўнага напою з 27 лекавых расьлінаў, якім традыцыйна частуюць на Купальле. Потым частка людзей пайшла купацца, частка – адпачываць, але песьні пры вогнішчы гучэлі да самай раніцы.

Хутка праляцела самая кароткая ноч году. Удзельнікі з прыемнасьцю дзякавалі арганізатарам імпрэзы, сп-ву Рыжых і Валянціне Якімовіч.

***Віталь ЗАЙКА***

*Фатаздымкі С. Трыгубовіча*





# “Галгатня пра ЗыШыА”

## З геаграфіяй на бакір

Як патлумачыць амэрыканцам, дзе знаходзіцца Беларусь? Калі ты аптыміст, можна пачаць з таго што паміж Польшчай і Расеяй. Калі ж ты смутнаглядца (або калі першы крок сьветлаглядніка падвёў), то лепш браць маштабней – Беларусь паміж Нямеччынай і Расеяй. Ваш суразмоўца ўсё яшчэ няўцямна лыпае вачыма? Паміж Азіяй і Эўропай, думаю, павінна спрацаваць нават з тымі, у каго ў школе былі праблемы з геаграфіяй. Адну хвілінку, скажаце вы, праблемы з геаграфіяй – гэта ж агульная рыса кожнага амэрыканца. Ну добра. А ці вы самі адрозьніваеце Вашынгтон ад Вашынгтону і ці ведаеце, у якім штаце знаходзіцца Кэнзас-Сіці або як правільна вымавіць Albuquerque? Думаю, што калі на гэты конт правесьці апытаньне на вуліцах Валожына, то выявіцца, што ўяўленьне беларусаў пра геаграфію Амэрыкі будуць ня лепшыя, як у амэрыканцаў пра геаграфію Беларусі. Варта памятаць, што Беларусь усяго толькі пуп Эўропы, а шмат амэрыканцаў не былі нават у суседнім штаце, някажучы ўжо пра ваяжы па старым кантынэньце. І хоць стэрэатып пра амэрыканскую бязглуздасьць моцна перабольшаны, але пэўныя праблемы ёсьць. Калі вашую краіну тут не пераблытаюць з Баўгарыяй або Бэльгіяй, то вам і так пашанцавала ўжо больш чым чэхам, якім надоечы надавалі кухталёў за чачэнскі тэрарызм. Адна надзвычай прыемная жыхарка цэнтральнай часткі ЗША, якая пры кожнай сустрэчы са мною, пыталася пра краіну майго паходжаньня, аднойчы захацела прадставіць мяне сваёй маці. “This is Vital, – сказала яна, – He is from Bangladesh.

***Віталь ВОРАНАЎ***




### Уплаты ў Згуртаваньне
### Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

**І. Палуян .....................50**
**А. Радзівіл .....................50**
**М. Самусь ....................50**
**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
P. O. Box 572
New York, NY 10113
**Чэкі выпісвайце на імя**
*Valentina Balashchenko.*

***Шаноўныя сябры!***
*Калі ласка, сваечасова абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні” (**гл. інфармацыю аб апошнім ахвяраваньні на канвэрце**).*

## Наступны сход
### Згуртаваньня “ПАГОНЯ”
адбудзецца **ў суботу 13 ліпеня 2013 году.**

Месца правядзеньня сходу:
***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі **Union Square**.*
***Заля на другім паверсе.***
Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, падзапных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку **www.pahonia.org***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**К. Ліпская ....................30**
**Ю. Малахаў ..................30**
**І. Палуян .....................30**
**А. Радзівіл ...................30**
**М. Самусь ....................30**
**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя новаабранага скарбніка арганізацыі **Viktar Yedzinovich**.*
*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт **www.e-krama.com***